Вам трэба працягнуць падпіску на красавік? Сёння апошні дзень!

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
**Якуб КОЛАС**

**№ 25 (4277)**

27 сакавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## ЗША высылаюць 60 расійскіх дыпламатаў

Таксама пра высылку шэрагу расійскіх дыпламатаў заявілі Канада, Францыя, Польшча, Украіна, Чэхія, Літва, Эстонія, Данія, Італія, Нідэрланды, Германія, Фінляндыя і Латвія. Кіраўнік Еўрапейскага савета Дональд Туск распавёў, што да гэтых мер вырашылі далучыцца 14 з 28 краін ЕС.

Гэты крок робіцца ў знак салідарнасці з Вялікабрытаніяй, дзе на пачатку сакавіка быў атручаны перабежчык з расійскага ГРУ **Сяргей Скрыпаль** і яго дачка. У атручванні падазраюць расійскія спецслужбы, якія выкарысталі нервова-паралітычнае рэчыва "Навічок".

**МІНСК, 25 САКАВІКА 2018 ГОДА**



БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, спецыяльна для "Народнай Волі"

## ...Не разбіць, не спыніць, не стрымаць

У нядзелю стужка "Фэйсбука" пярэсціла фоткамі шчаслівых фрэндаў на фоне сталічнага Вялікага тэатра і хвалі бел-чырвона-белых сцягоў. Эмоцыі зашкальвалі: як крута, які быў драйв, нас багата і г.д. Асабліва ўзнёсла выглядалі допісы моладзі.

Гэтыя юнакі і дзяўчаты не бачылі апазіцыйных маршаў і мітынгаў 1990-х з дзясяткамі тысяч удзельнікаў. Новае пакаленне на святочным фестывалі каля Опернага перажыло гэты ўздым, гэтае адчуванне "нас багата" ўпершыню.

І гэта надзвычай важна. Бо ў нацыянальна свядомай беларускай публікі за гады прэсінгу з боку палітычнага рэжыму, які доўга гуляў у "братнюю інтэграцыю", цвердзіў, што рускія і беларусы – адзін народ, назапасілася крытычная маса негатыўнага досведу. Досведу дыскрымінацыі і параз, які ў многіх стаў генерыраваць песімізм, абыякавасць.

Гэтым разам сістэма таксама не абышлася без дэманстрацыі рэпрэсіўных інстынктаў: затрымлівалі актывістаў у рэгіёнах, напакавалі некалькі аўтазакаў на сталічнай плошчы Якуба Коласа, адкуль мелася пачацца несанкцыянаванае шэсце.

І ўсё ж калі падсумоўваць, то Дзень Волі, прысвечаны 100-годдзю Беларускай Народнай Рэспублікі, і ў Мінску, і ў шэрагу іншых гарадоў даў доўгачаканы магутны зарад пазітыву. Тысячы людзей, што стаяць на грунце нацыянальнай ідэі, адчулі акрыленасць.

Свята па вялікім рахунку ўдалося. Яно расставіла важныя акцэнты ў спрэчцы паміж тымі, хто бэсціў арганізатараў за нібыта жаданне быць на падтанцоўцы ва ўладаў, і тымі, хто даводзіў, што трэба адыходзіць ад старых шаблонаў і выкарыстоўваць новыя, хай сабе і сціплыя, магчымасці для прамоцыі нацыянальных каштоўнасцяў.

Для мяне паказальна, што адразу пасля святкавання вызвалены з Акрэсціна Уладзімір Някляеў, паплечнік Міколы Статкевіча, у пэўнай ступені дэзавуіраваў рэзкія заявы апошняга, заклікаў да адзінства апазіцыі і прадухілення яе расколу на "канцэртную" і "пратэстную".

Натуральна, наіўна думаць, што заўтра ў яе асяроддзі запануе ідылічная згода. Але факт тое, што адбываюцца важныя працэсы, на пярэдні план выходзяць новыя фігуры з грамадзянскай супольнасці, такія як Павел Белавус, Эдуард Пальчыс, Антон Матолька, ідзе пошук свежых, крэатыўных форм і метадаў прасоўвання ў масы нацыянальнага дыскурсу.

Натуральна, не варта ўпадаць у эйфарыю. Трэба цвяроза ацэньваць сітуацыю, разумець, што ўлада трохі саступіла, але па сутнасці не змянілася. Яна толькі крышачку рассунула межы рэзервацыі для "свядомых" (вялікае начальства вымаўляе гэта слова з адценнем грэблівасці), аднак зусім не збіраецца ўвогуле прыбіраць бар'еры, бо баіцца грамадзянскай і тым болей палітычнай актыўнасці сапраўдных, а не казённых патрыётаў. Рэжым рэзка акрэслівае межы дазволенага, строга спыняе тых, хто выходзіць за перыметр. Нават у літаральным сэнсе. У нядзелю тармазілі публіку, што пакідала зону свята ля Вялікага тэатра з БЧБ-сімволікай: стоп, тут ужо нельга!

Таму за правы і свабоды давядзецца яшчэ змагацца. Разам з тым відавочна, што рэжым мусіць асэнсоўваць новыя рэаліі, вонкавыя і ўнутраныя, і будаваць больш гнуткі падыход да незалежніцкага пласта грамадства. І гэтую новую сітуацыю варта выкарыстоўваць, каб у цалкам легальных формах разгортваць творчую працу, што да прамоцыі нацыянальных каштоўнасцяў. Бо найперш ад гэтага залежыць, ці адбудзецца выхад "свядомых" з гета.

Тым часам між энтузіястамі і скептыкамі ў сацыяльных сетках разгарнулася спрэчка, колькі ж народу было на святкаванні стагоддзя БНР ля Вялікага тэатра. Скептыкі кажуць пра 5–7 тысяч, арганізатары, што за ўвесь час там пракруцілася да 50 тысяч. Магчыма, ісціна недзе пасярэдзіне. У любым разе гэта нашмат болей, чым збіралі традыцыйныя апазіцыйныя акцыі апошніх гадоў, уключна з экстрэмальнымі "дармаедскімі" маршамі.

І гэта безумоўны поспех пазаўчарашняй імпрэзы. Бо варта ўлічыць, што інфармацыя пра фестываль распаўсюджвалася найперш у коле палітызаванай публікі, амаль што не даходзіла да шырокай аўдыторыі. Звыш таго, арганізатары "Свята незалежнасці" не выкарыстоўвалі адміністрацыйнага рэсурсу і не заваблівалі алкаголем, як тое часта робіцца ў выпадку афіцыёзных мерапрыемстваў.

Перад імпрэзай той-сёй наракаў у сацыяльных сетках: а чаму, напрыклад, збіраюцца даць слова на "Свяце незалежнасці" вунь таму рускамоўнаму бізнесмену, ну які ён змагар? Але як па мне, то гэта цудоўна, што і сярод тых, хто прамаўляў са сцэны, і сярод звычайных удзельнікаў былі не толькі заўзятыя апазіцыянеры. Так, нейкія дзяўчаткі шчыра прызнаваліся журналістам падчас жывой трансляцыі, што прыйшлі купіць шарыкаў. Кагосьці прывабіў чутны здалёк "музон", кагосьці – ежа на фудкорце. Але ж і такая публіка заставалася, слухала пранізлівыя вершы ды песні пра краіну пад белым сцягам з чырвонай стужкай, пра старадаўнюю Пагоню, якой не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

Гэта яшчэ не выхад з гета, але крок да выхаду. "Свята незалежнасці" ля Вялікага тэатра прывабіла нямала новых людзей. А тыя, хто ўжо даўно стаіць на глебе незалежніцкай ідэі, атрымалі доўгачаканую добрую дозу станоўчых эмоцый. Гэтыя ўражанні – "нас багата", "у нас атрымалася" – будуць сілкаваць аптымізм і надалей.

СУД

## Лепш было б, калі б іх наогул не перадалі

Адміністрацыйныя справы затрыманых 25 сакавіка ў Мінску актывістаў, валанцёраў, праваабаронцаў і проста грамадзян павінны былі разглядацца ўчора ў судах Мінска.

Паводле папярэдніх звестак, складзена больш за дзесяць пратаколаў аб правапарушэннях за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, некалькіх чалавек абвінавацілі ў непадпарадкаванні службовай асобе.

Але суды ўчора так і не адбыліся. Фігурантам спраў паведамілі, што ў суды не перадалі з міліцыі пратаколы, і параілі звяртацца за тлумачэннямі туды.

Лепш было б, калі б іх наогул не перадалі.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Чаму не выступіла Алексіевіч?

На свяце ля Опернага тэатра планавалася выступленне лаўрэата Нобелеўскай прэміі **Святланы Алексіевіч**, але прысутныя яе так і не ўбачылі.

Стала вядома, што пісьменніца захварэла, у яе праблемы з горлам. Зварот зачытала Зінаіда Бандарэнка, якая была вядучай мерапрыемства.

*«Шкадую, што мяне ў гэты дзень няма сярод вас, што не чую вашы галасы, не бачу вашых твараў, і ў той жа час я з вамі, у думках – я з вамі. Сёння ў нас свята – мы святкуем тое, што мы ёсць. Усведамляем тое, што мы ёсць беларусы*", – такія словы перадала пісьменніца суайчыннікам.

УРАЖАННІ

## Зінаіду Бандарэнка апранала на свята касцюмер хору Міхаіла Дрынеўскага

*Вядучая «Свята Незалежнасці», легендарная дыктарка Беларускага тэлебачання, народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка расказала, хто рыхтаваў урачыстую праграму на 25 Сакавіка, дзе яна ўзяла прыгожыя строі, у якіх стаяла на сцэне, а таксама падзялілася сваімі ўражаннямі ад свята каля Опернага тэатра.*




– Змерзнуць я не магла, таму што сонечная атмасфера, якая панавала на свяце, і касцюм, які апранула дзякуючы майму даўняму сябру Міхаілу Паўлавічу Дрынеўскаму, саграваў, – *усміхаецца Зінаіда Аляксандраўна, калі чуе маё пытанне наконт здароўя і настрою.*

**– Дарэчы, строі ў вас былі шыкоўныя...**

– Дапамагла мне з імі касцюмер Народнага хору, а Міхаіл Паўлавіч пажартаваў: "У гэтым бушлаце любы лесапавал вытрымаеш!" А паліто сапраўды вельмі цёплае, лёгкае, зручнае, прыгожа расшытае. Мех штучны на рукавах і на каўняры, а выглядае як норка...

Спачатку дапамагчы мне са сцэнічным касцюмам узялася адна прыватная асоба, якая даўно і прафесійна займаецца беларускімі строямі. Я паглядзела каталог яе работ, вельмі мне спадабалася расшытае вышыванкай паліто на цёплай падшэўцы. Замовіла яго, і быццам бы мы ўсё вырашылі, але яна пачала цягнуць з сустрэчай, адкладваць яе, спасылацца на нейкія справы, і я зразумела, што яна баіцца... Каб не рызыкаваць, звярнулася да касцюмераў Міхаіла Дрынеўскага і напярэдадні свята была спакойная за свой знешні выгляд.

**– А хто пісаў сцэнарый урачыстай часткі?**

– Мы з сувядучым Усеваладам Сцебуракам. Некалькі разоў ён прыязджаў да мяне дамоў, мы ўсё абмяркоўвалі. Ён адказваў за гістарычную напаўняльнасць праграмы, я – за лірычную.

Хачу падзякаваць Усеваладу асабіста! Ён так мною апекаваўся, дапамагаў падымацца на сцэну – прыступкі былі высокія, нязручныя для маёй вузкай спадніцы... А якая ў яго харызма! Малайчына!

**– Працавалі на грамадскіх пачатках?**

– Безумоўна, а як інакш! Людзі збіралі грошы, каб так хораша і годна адзначыць 100-годдзе БНР, адзначыць свята нашай незалежнасці! І ўсё атрымалася!

**– Вашы самыя яркія ўражанні ад святкавання?**

– Спачатку мне прыгадаліся 1990-я, калі пасля аднаўлення незалежнасці таксама пад адкрытым небам на вуліцы каля Опернага мы адзначалі свята нашай Беларусі. Арганізоўвалася ўсё на дзяржаўным узроўні. І велізарны бел-чырвона-белы сцяг, палотнішча 6 на 2 метры расцягнулі над уваходам сцэны, і ён так прыхожа лунаў над артыстамі...

А зараз улады як бы загналі нас у рэзервацыю. Каля Опернага сцягі дазволілі, а за межамі вызначанай пляцоўкі – не. І людзей хапалі, нават у дзяцей бел-чырвона-белыя сцяжкі адбіралі. Сорам! Прыкра! Балюча за арыштаваных, за затрыманых. Многіх вызвалілі позна ўвечары 25-га, але ўсё роўна не змагла ўлада ўтрымацца і абысціся без гэтых разгонаў, затрыманняў.

Ну а каля Опернага панавала цудоўная атмасфера! Гэта такое шчасце – адчуваць пазітыўную людскую энергетыку, бачыць столькі прыстойных людзей, аднадумцаў, працаваць у такіх умовах, калі сэрца стукае ад радасці і хвалявання...

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

СЛОВЫ З-ЗА КРАТАЎ

**Як паведамлялася, за некалькі дзён да 25 Сакавіка знакаміты паэт і палітык Уладзімір Някляеў быў кінуты ў ізалятар на Акрэсціна быццам для адбыцця пакарання, вынесенага раней адным са сталічных судоў. Святочны дзень ён правёў за кратамі, дзе і напісаў гэты верш.**



**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

## Дзень Волі

*Да 100-годдзя БНР*

**I**

У камеры турэмнай, нібы звер,
Глухім адчаем выючы да столі,
Святкую я стагоддзе БНР –
Няспраўджанае свята нашай Волі.

Прынік да вочка
вокам
вартаўнік.
Мардаты. Зубы сцяты. Чын па чыну.
А недзе там, над столлю, – сакавік.
І недзе там – за кратамі – Айчына.

І раптам я адчуў, што мы ўдваіх
За кратамі, як з ланцугом на шыі,
Я выю ў столь па гэты бок ад іх,
Яна – па той бок у нябёсы вые.

Аж дрыжыкі бяруць з яе выцця!
Такая ў ім туга, нуда такая.
Як не хапае ёй, каб жыць, жыцця,
І смерці, каб памерці, не хапае!

І так – скрозь век, скрозь сто студзёных год,
Скрозь боль і жах, скрозь песні з карагодамі –
І скрозь правадыроў, і скрозь народ,
Які ніяк не можа стаць народам.

**II**

Вясна, вясна! Скажы, шапні ты мне,
Калі ўжо ты прыйшла на наш гасцінец,
Чаму я ў роднай, крэўнай старане
Турме – радня, а ўсёй радні – чужынец?

Шапні, вясна чаканая, скажы:
У чым я прад Айчынай вінаваты?..
І слухаў я, як б'юцца капяжы
Аб падваконнік,
Аб сцяну,
Аб краты...

**III**

О, Беларусь! О, Крывія мая!
Ты
Ува мне
Жывой крывёй струменіш!
І гэта ўжо ніяк,
Нічым не зменіш:
Кроў на ваду не памяняю я.

Дарма – турма! А Воля – не дарма!
І не дарма Пагоні меч узняты!
Мы рассячэм ланцуг!
Мы вырвемся з ярма!
Мы ўсё-ткі спраўдзім
Волі нашай
Свята!

*25 сакавіка 2018 года, спецпрыёмнік "Акрэсціна".*

ПРЭСІНГ

## «Добрая была б бочка з мёдам, але дзёгаць нікуды не дзенеш»

*Падчас асвятлення падзей, прысвечаных святкаванню 100-годдзя БНР, у Мінску былі затрыманы незалежныя журналісты.*

### Абышлося без пратаколаў

Затрыманні адбываліся ў раёне плошчы Якуба Коласа, дзе мелася адбыцца, але так і не прайшло не санкцыянаванае ўладамі шэсце.

Аднымі з першых пад удар трапілі журналісты-фрылансеры **Андрэй Козел і Вольга Чайчыц**. Іх аўтамабіль быў спынены супрацоўнікамі ДАІ. Пасля праверкі дакументаў іх адпусцілі, але неўзабаве машыну спынілі зноў. Андрэя Козела павезлі ў псіханеўралагічны дыспансер, дзе правяралі на ўтрыманне ў крыві алкаголю. Праз некалькі гадзін Андрэй Козел быў адпушчаны.

У цэнтры Мінска на плошчы Якуба Коласа былі затрыманы журналісты, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам "Белсат": **Кацярына Андрэева, Любоў Лунёва** і аператар тэлеканала **Сяргей Кавалёў**. Таксама былі затрыманы журналісты **Станіслаў Івашкевіч** і **Ігар Ільяш.** Усіх іх забралі ў міліцэйскія пастарункі, але неўзабаве выпусцілі – без складання пратаколаў.

У Глыбокім, што ў Віцебскай вобласці, была затрымана журналіст-фрылансер **Таццяна Смоткіна**. Яе даставілі ў Лепельскі РАУС, дзе склалі пратакол апытання і таксама адпусцілі.

Пракаментаваць сітуацыю з затрыманнямі журналістаў "Народная Воля" папрасіла прэс-сакратара Беларускай асацыяцыі журналістаў **Барыса Гарэцкага.**

– У параўнанні з мінулагоднімі брутальнымі дзеяннямі прадстаўнікоў сілавых структур у гэтым годзе ўсё адбывалася больш прыстойна, – гаворыць ён. – Ніводнага пратакола, складзенага на журналіста пасля падзей 25 сакавіка, няма.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

ПРЭСІНГ

# «Добрая была б бочка з мёдам, але дзёгаць нікуды не дзенеш»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Адпаведна судоў над нашымі калегамі няма таксама. Гэта можна адзначыць як пазітыўны момант. З іншага боку, нельга не адзначыць тое, што гэтым разам вялося мэтанакіраванае паляванне за журналістамі-фрылансерамі. Мы гэта расцэньваем як наўмысныя перашкоды выкананню журналістамі іх прафесійных абавязкаў.

### «У Цэнтральным РАУС – звычайная схема»

Адзначым, што і пасля дазволенага ўладамі мерапрыемства, якое прайшло ля Опернага тэатра, журналісты сутыкнуліся з затрыманнямі. Вось што напісала ў сваім “Фэйсбуку” аўтар беларускага бюро Радыё Свабода **Галіна Абакунчык:**

“Пасля ўрачыстай часткі выхо-джу на вуліцу, каб даехаць дадому. У руках вярба з кветачкамі і невялікі бел-чырвона белы сцяг. Але ад Опернага не дайшла нават да найбліжэйшага прыпынку на Нямізе: падкатвае сіні бус. Мне тлумачыць не трэба, хто гэта і што трэба, – хуценька разварочваюся і спрабую шмыгнуць у метро. Іх таксама вучыць не трэба – даганяюць дзве “шафы”, бяруць пад ручкі і вязуць красотку катацца. Ніякіх тлумачэнняў, хто яны, куды і чаго вязуць. Запэўніванні, што іду з дазволенага свята дадому, нікога не чапаю, маю пашпарт, – ні на што не дзейнічаюць.

У Цэнтральным РАУС звычайная схема – адабраныя рэчы, забаронена тэлефанаваць, забарона нават на прыбіральню. Патрабуюць адкатаць пальчыкі «па законе», па законе і адмаўляюся. Праз некаторы час прыводзяць яшчэ адну журналістку – **Адар’ю Гуштын** з бел-чырвона-белым сцягам на плячах, сына майго калегі Віталя Цыганкова і яшчэ аднаго маладзёна Аляксандра. Гэтых адпрацавалі па поўнай – з пальчыкамі і ўсім іншым.

Нас з Адар’яй праз чатыры гадзіны гэтак жа моўчкі, без аніякіх тлумачэнняў і прабачэнняў раптам адпускаюць, астатніх – на Акрэсціна. І гэта толькі ў адным РАУС і толькі пры мне. А колькі людзей адседзелі і зараз застаюцца сядзець у іншых РАУС, якія таксама ішлі на дазволенае ці з дазволенага свята?! Колькі забралі ранкам, напярэдадні? Пра якую эйфарыю гаворка? Што змянілася, што «дазваляюць» святкаваць толькі ў загоне, а за ягонымі межамі ты ўжо адмарозак, з якім можна абыходзіцца на ўласны густ? Ёсць сумневы, як да нас насамрэч ставіцца рэпрэсіўная машына?

Змянілася хіба толькі тое, што далі ёй дадатковы шанец легітымізавацца яшчэ больш – заўтра ж выцця будзе нямерана пра «лібералізацыю». Ну і хіба хтосьці яшчэ атрымаў для сябе ім вядомыя дывідэнды – усё. Для іншых грамадзян і патрыётаў не змянілася нічога. Добрая была б бочка з мёдам, але дзёгаць нікуды не дзенеш».

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ:

# «Сышоў сексот – прыйшоў верш…»

*Паэт і палітык распавёў “Народнай Волі”, як яго ізалявалі напярэдадні Дня Волі.*

– Затрымалі 21 сакавіка, – распавядае Уладзімір Пракопавіч. – Адвезлі ў РУУС, там паказалі рашэнне суда яшчэ ад 1 лістапада мінулага года, згодна з якім я асуджаны да 10 сутак адміністрацыйнага арышту. Як бачым, адсідку ўлады мне выпісалі ў “растэрміноўку”. Праўда, зараз я адсядзеў толькі пяць сутак з дзесяці, 25 сакавіка вечарам мяне выпусцілі на волю.

**– Мінулым разам вас забралі на “суткі” без лекаў, якія вам пастаянна неабходны…**

– І гэтым разам я іх не браў з дома, бо якраз ішоў да ўрача. Але, дзякуй Богу, кіраўніцтва адной з амбасад у Беларусі паклапацілася пра тое, каб мне іх перадалі ў камеру. І гэта дазволіла пазбегнуць чарговага гіпертанічнага крызу, таму што любое затрыманне – гэта стрэс.

**– У Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў – усё традыцыйна?**

– Так, але забралі асадку, і гэта моцна папсавала нервы. Праўда, як кажуць: не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло. Заўважыў, што падчас маіх адсідак у камеру заўсёды запускаюць “падсаднога” чалавека, і такіх я ўжо навучыўся распазнаваць. Хутка вылічыў сексота і гэтым разам, хаця не стаў адразу высвятляць адносіны з ім. Увогуле, такую пароду людзей я цярпець не магу, але тут я ўбачыў, што гэты “падсадны” меў асадку. Я падтрымліваў ягоную гульню, у знак згоды ківаў галавой, калі той нешта казаў, і ў рэшце рэшт “выцыганіў” у яго асадку. Пасля гэтага даў зразумець сексоту, што вылічыў яго, і таго адразу “адкамандзіравалі”. Пры гэтым пра асадку ён забыўся, калі сыходзіў, яна засталася ў мяне. І, калі не стала гэтага смуроду ў камеры, я ўздыхнуў на поўныя грудзі, і да мяне прыйшоў верш. Хутчэй за ўсё, каб не было асадкі, не было б і верша. Я яго проста не запомніў бы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РЭБУС

# Куды зніклі дроны?

*25 сакавіка падчас святкавання 100-годдзя БНР каля Опернага тэатра ў невядомым накірунку знікла некалькі апаратарскіх дронаў – беспілотных прылад, якія ўзнімаюцца ў паветра і здымаюць зверху. Імі кіруюць па радыёсувязі з зямлі.*

Прадстаўнік «Белсата» ў Беларусі **Аляксей Мінчонак** расказаў, як выглядаў крадзеж.

«Міліцыя ведала пра тое, што мы будзем запускацца, – яны перапісвалі нумары тэхнікі. Але як толькі дрон узняўся, мы адразу згубілі над ім кантроль – паспелі перадаць толькі адзін кадр. Дрон быў арэндны, цацка гэта нятанная – цана можа быць да дзвюх тысяч еўра. А хто мог скрасці? Той, у каго ёсць такія магчымасці, – ясна, што гэта не проста хуліганы. Людзі, якія паспелі перадаць больш кадраў, кажуць, што на даху Оперы стаяла нейкае няяснае абсталяванне, якога звычайна там няма, калі паглядзець фота ранейшых дзён», – сказаў Мінчонак.

Цяпер уласнік дрона, з якім працаваў «Белсат», звярнуўся з заявай у міліцыю.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# «Дачка вярнула ўсё да капейкі, нават маральную шкоду кампенсавала, але яе ўсё адно асудзілі»

У мінулым годзе на старонках “Народнай Волі” мы расказвалі аб прыватным доме-інтэрнаце для адзінокіх і старых людзей “Сямейны прычал”, які працуе ў Валожынскім раёне.

Гэты абсалютна ўнікальны праект стаў рэальнасцю дзякуючы намаганням **Алены Валянцінаўны Дубовік** *(на фота)*. Яна ўзяла ў арэнду будынак старой вясковай школы ў вёсцы Вайганы, сваімі сіламі і за сродкі сваёй сям’і зрабіла там рамонт, набрала штат супрацоўнікаў, і ў 2013 годзе прыватны пансіянат прыняў першых пастаяльцаў.

Усе гэтыя гады дом-інтэрнат існуе без дзяржаўнай падтрымкі, льгот і бонусаў. Няма ў інтэрната і пастаянных спонсараў, затое ёсць свая гаспадарка, свой агарод, сад. І ў выніку – дах над галавой з доглядам для 40 нямоглых старых і праца для мясцовых жыхароў. Штат пансіяната – каля 20 чалавек.

Але, на жаль, нярэдка ў самай прыгожай казкі можа стацца не вельмі шчаслівы канец.

Нядаўна ў рэдакцыю патэлефанаваў наш пастаянны чытач з Валожына і літаральна ашаламіў: «*А ці ведаеце вы, што Алену Валянцінаўну Дубовік асудзілі на 4 гады калоніі?! Яна, кажуць, незаконна прысвоіла 40 тысяч рублёў сваёй падапечнай, якая памерла, а сваякі гэта выкрылі і звярнуліся ў суд*».

Паверыць у гэта было складана. Падчас нашай леташняй сустрэчы Алена Валянцінаўна, распавядаючы пра сваю справу, падкрэслівала, што больш за ўсё асцерагаецца ўсякага роду падазрэнняў і здагадак кшталту таго, што адкрыла прыватны пансіянат дзеля карысці, таму яна не аформіла ніводнага дагавора рэнты на кватэру, а калі бабулі-дзядулі хочуць штосьці ахвяраваць пансіянату са сваіх зберажэнняў, то ўсе здзелкі афармляюцца выключна праз натарыуса. А тут такая гісторыя…

Але аказалася, што гэта праўда.

– *Так, дачку асудзілі,* – пацвердзіла нечаканую інфармацыю мама Алены Валянцінаўны, фельчар «Сямейнага прычалу» **Яўгенія Андрэеўна Завадская**. – *Яна ўжо адбывае пакаранне ў Гомельскай жаночай калоніі.*

Суд Валожынскага раёна па справе Алены Дубовік адбыўся яшчэ восенню мінулага года. Суд устанавіў, што дырэктар інтэрната незаконна скарысталася пасля смерці сваёй падапечнай даверанасцю на права распараджэння маёмасцю, якую тая выпісала ёй пры жыцці, і зняла грошы з рахунку памерлай пенсіянеркі. Дубовік прызналі вінаватай у здзяйсненні махлярства ў асабліва буйным памеры.

– *Да гэтага часу не магу ва ўсё гэта паверыць,* – уздыхае Яўгенія Андрэеўна. – *Не магла дачка ўзяць чужое, і яна на гэтым настойвала, была ўпэўнена ў сваёй невінаватасці, таму і адваката нават не брала. Казала ў судзе, што грошы выдаткавала на патрэбы пансіяната. Вярнула сваякам усё да капейкі, нават маральную шкоду кампенсавала, а яе ўсё роўна асудзілі на 4 гады, ды яшчэ з канфіскацыяй маёмасці... Нам, блізкім, дачка забараніла хадзіць у суд, каб не хваляваліся. На мае пытанні толькі адказвала, што ўсё будзе добра. Працавала да апошняга дня, яе затрымалі ў зале суда пасля абвяшчэння прысуду...*

Рашэнне суда першай інстанцыі Алена Дубовік абскардзіла, але Мінскі абласны суд пакінуў гэтае рашэнне ў сіле.

– *Зараз мы заняты яшчэ адным судом, а потым мама будзе звяртацца ў Вярхоўны суд,* – уздыхае дачка Алены Валянцінаўны Кацярына. – *Паводле рашэння Валожынскага суда павінны канфіскаваць маёмасць – кватэру, мэблю, тэхніку. Нас у мамы чацвёра. Кватэра будавалася на шматдзетную сям’ю, калі мы ўсе былі непаўналетнія. Зараз з непаўналетніх у ёй пражывае толькі наша малодшая сястра Арына, ёй 10 гадоў. Я таксама тут жыву. Айчым падаў іск у суд: хіба можна забіраць усю кватэру, калі не для адной мамы яна будавалася і калі ў ёй зараз прапісаны непаўналетні? І як быць з маёмасцю? Халадзільнік у нас адзін, і пральная машына адна, але ўсё апісалі. Толькі пісьмовы стол, за якім Арына робіць урокі, не чапалі.*

*Калі шчыра, не хочацца пра ўсё гэта расказваць... Столькі маме давялося перажыць!.. Яна, можна сказаць, усю душу ўклала ў сваю працу, а вунь яно як атрымалася... Чакаем, калі дазволяць спатканне з мамай...*

ДАРЭЧЫ

## «Сямейны прычал» працягвае працаваць у ранейшым рэжыме

*Супрацоўнікі інтэрната расказваюць, што пасля суда ўстанова перажыла шэраг праверак. Але ніякіх сур’ёзных парушэнняў выяўлена не было.*

*Часова абавязкі дырэктара зараз выконвае* **Наталля Бубен**.

– Сёння ў пансіянаце пражываюць 32 пенсіянеры, – *расказвае Наталля Іванаўна.* – Уся гэтая сітуацыя ніякім чынам не адбілася негатыўна на іміджы інтэрната, ніхто ад нас не сышоў. Толькі адну падапечную забралі дзеці і таму, што з’явілася магчымасць даглядаць яе дома сваімі сіламі. Нашы пастаяльцы, вы самі ведаеце, дагледжаныя, накормленыя. Розныя заняткі па інтарэсах для іх ладзім, мерапрыемствы ўсялякія арганізоўваем. Установа працуе так, як павінна працаваць! Паколькі зараз ёсць вольныя месцы, запрашаем жадаючых. Першы месяц пражывання ў пансіянаце каштуе 550 рублёў: чалавек не ведае, ці спадабаюцца яму ўмовы, таму робім такую зніжку, каб агледзеўся, падумаў, заставацца яму тут ці не. Звычайны кошт пражывання – 700 рублёў у месяц, не павышалі яго з 2016 года.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

НА СУВЯЗІ – ВАРШАВА

# Як у Польшчы адзначылі 100-годдзе БНР

25 сакавіка прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда звярнуўся да беларусаў з віншаваннем, апублікаваным на афіцыйным партале кіраўніка дзяржавы:

*“25 сакавіка 1918 года была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. У сотую гадавіну гэтай падзеі ўсім беларусам, з якімі польскі народ яднае супольная гісторыя і культура, перадаю сардэчныя пажаданні ўсяго найлепшага і поспехаў у развіцці іх Бацькаўшчыны”.*

У гэты ж дзень больш за сотню беларусаў сабраліся ля помніка Тадэвушу Касцюшку ў самым цэнтры Варшавы. Па традыцыі тут ужо каторы год запар пачынаецца святочная дэманстрацыя да гадавіны абвяшчэння незалежнасці БНР. Падтрымаць беларусаў прыйшлі іншыя жыхары Варшавы – палякі, а таксама ўкраінцы.

Шматлюдная дэманстрацыя накіравалася па галоўных вуліцах польскай сталіцы – Маршалкоўскай, Святога Крыжа, Кракаўскім Прадмесці – да помніка Адаму Міцкевічу, дзе адбыўся мітынг. Маршрут невыпадкова быў пракладзены: паміж манументамі двух вялікіх палякаў, ураджэнцаў Беларусі, што сімвалізуе адзінства гістарычных лёсаў нашых краін і народаў.

Дэманстрацыю ахоўвалі паліцэйскія. Аднак гэта была толькі фармальнасць. Да ўдзельнікаў шэсця жыхары і госці Варшавы ставіліся вельмі прыязна. Вадзіцелі аўтамабіляў, якія праязджалі міма, сігналілі і гучна віталі з вокнаў машын, падтрымліваючы дэманстрантаў. Некаторыя глядзелі на шэсце са здзіўленнем. Падабенства беларускага нацыянальнага сцяга да польскага магло выклікаць натуральныя пытанні. Прахожыя падыходзілі да беларусаў і пыталіся, супраць каго яны мітынгуюць. Адказ многіх здзіўляў: у беларусаў – Дзень Незалежнасці.

Справа ў тым, што ў цэнтры Варшавы, асабліва ля Палаца Прэзідэнта (а калісьці – палаца Радзівілаў), дзе завяршылася маніфестацыя, вельмі часта праходзяць пікеты прыхільнікаў розных польскіх палітычных сіл. Дарэчы, і 25 сакавіка адбывалася адна з такіх акцый. Яе ўдзельнікі праз мегафон горача павіншавалі беларусаў.

Сярод тых, хто выступіў перад удзельнікамі беларускага свята, быў прафесар Аляксандр Краўцэвіч, дырэктар Цэнтра беларускіх даследаванняў Варшаўскага ўніверсітэта, які нагадаў, што без БНР не было б і БССР, Рэспублікі Беларусь: “Але ў сучаснай Беларусі, на жаль, ідэалы БНР не рэалізаваны”.

Вялікая колькасць удзельнікаў варшаўскіх урачыстасцяў 25 сакавіка адправілася ў Беласток. Тут у гонар стагоддзя абвяшчэння незалежнасці Беларусі адбылося богаслужэнне ў царкве Святога Яна Багаслова. Затым у Падляшскай філармоніі прайшоў святочны канцэрт, на якім выступіў папулярны беларускі музыкант Лявон Вольскі.

**Віктар КОРБУТ.**

БОЛЬНОЙ ВОПРОС

# Получит ли Беларусь евразийский кредит?

*Проблемы с выделением двух последних траншей возникли в связи с невыполнением Минском кредитной программы.*

Министерство финансов рассчитывало на получение последних траншей евразийского кредита в первом квартале 2018 года. Однако март уже заканчивается, а деньги так пока и не пришли. Получит ли Беларусь транши на общую сумму 400 млн долларов или кредитная программа, как и предыдущая, закончится неудачно для нашей страны?

### Главное достижение под угрозой

На сегодняшний день Евразийский банк развития, который управляет Евразийским фондом стабилизации и развития, является главным кредитором Беларуси. Первый кредит на 3 млрд долларов ЕФСР, в котором главную роль играет Россия, выдавал Беларуси в 2011-2013 годах, однако из-за невыполнения условий последний транш до Минска не дошел.

С 2016 года Беларусь получает траншами второй евразийский кредит на общую сумму 2 млрд долларов. Минфин Беларуси в бюджет на 2018 год заложил поступление двух последних траншей (400 млн долларов).

Белорусские власти ранее заявляли, что ожидают их получение в первом квартале. Однако это маловероятно. До конца марта остаются считанные дни, а сроки проведения Совета евразийского фонда не известны.

Задержка с выделением Беларуси последних двух траншей кредита связана, по информации *БелаПАН*, с несколькими причинами. Главная – своевременное невыполнение Беларусью условий кредитной программы.

Так, например, белорусские власти не внедрили систему оценки воздействия проектов нормативно-правовых актов на бизнес, что должны были сделать еще к 1 октября 2017 года. К этой же дате Совет по развитию предпринимательства должен был стать уполномоченным органом по защите прав предпринимателей (омбудсменом).

Кстати, в декабре 2017 года **Александр Лукашенко** заявил, что нет необходимости создания в стране института омбудсмена, поскольку уполномоченный по защите прав предпринимателей в стране уже есть, и просил это передать евразийскому кредитору. *«Передайте им, что такой уполномоченный в Беларуси есть – президент»*, – подчеркнул Лукашенко.

В общем, получилась забавная ситуация. Правительство и Нацбанк в 2016 году согласовали с Евразийским фондом стабилизации и развития условия выделения кредита Беларуси, а в конце 2017-го выяснилось, что по отдельным нормам кредитной программы у президента есть особое мнение.

Еще одна причина, по которой переговоры о выделении траншей кредита до сих пор продолжаются, – непоследовательная политика белорусских властей. Действия вертикали по искусственному росту зарплат в конце 2017 года вызвали обеспокоенность у Евразийского фонда стабилизации и развития.

*«Главная озабоченность, которую выражает евразийский кредитор, связана с политикой зарплат в Беларуси. Макростабильность – единственное очевидное достижение евразийской программы. Рост зарплат выше производительности труда может привести к тому, что это достижение будет утрачено»*, – рассказал *БелаПАН* собеседник, знакомый с ходом переговоров.

На данный момент в связи с невыполнением условий предоставления траншей обсуждается корректировка кредитной программы.

*«Судя по предварительным договоренностям, вероятность получения Беларусью шестого транша евразийского кредита высока. Для получения седьмого транша Беларуси нужно будет выполнять дополнительные условия»*, – сообщил собеседник *БелаПАН* в финансовых кругах, уточнив, что переговоры по этой теме продолжаются.

### Минск просит деньги у Москвы не в последний раз

Эксперты считают, что если официальный Минск в 2018 году не допустит грубых ошибок в экономической политике, то оставшиеся транши евразийского кредита в этом году получит.

А вот если поручение президента по увеличению средней зарплаты (*«к концу первого квартала – восстановить тысячу рублей, а в течение года – превзойти этот показатель»*) будет выполнено, то с внешним финансированием могут быть серьезные проблемы.

*«Заявления относительно динамики зарплат от властей звучат разные. То они говорят, что рост зарплат должен быть увязан с ростом производительности труда, то они заявляют, что средняя зарплата должна вырасти до 1000 рублей, несмотря ни на что. Очевидно, курс на искусственный рост кредиторы не поддержат»*, – считает старший аналитик форекс-брокера «Альпари» **Вадим Иосуб**.

Схожего мнения придерживаются и другие белорусские экономисты.

*«Когда рост зарплат не соответствует производительности труда, у нас это обязательно ведет к проблемам на валютном рынке и к инфляции. Поэтому в случае продолжения политики искусственного роста зарплат шансы привлечь внешнее финансирование будут минимальны»*, – считает старший аналитик форекс-брокера Forex Club **Валерий Полховский**.

По мнению экспертов, учитывая негативные последствия директивного роста зарплат, а также позицию кредиторов, велика вероятность, что искусственным образом доходы населения в течение этого года расти не будут.

А принимая во внимание высокий уровень госдолга, приближающийся к пороговому значению (45% ВВП по оценкам Минфина), можно утверждать, что белорусские власти не располагают возможностями проводить политику, которая в корне не понравится кредиторам.

Тем более что, как считают белорусские аналитики, потребность страны в новых заимствованиях будет сохраняться.

*«Нежелание белорусских властей реформировать сектор неэффективных государственных предприятий будет сдерживать экономический рост. Соответственно, чтобы нынешнюю экономическую модель поддерживать и своевременно платить по долгам, придется еще не раз обращаться в Москву за финансовой помощью»*, – предполагает Вадим Иосуб.

**Дмитрий ЗАЯЦ.**

(Naviny.by)

Народная Воля
http://www.nv-online.info
27 САКАВІКА 2018 г.

ТРАГЕДЫЯ

# Пажар у гандлёвым цэнтры ў Кемераве: 64 чалавекі загінулі

*У расійскім абласным цэнтры Кемерава адбылася страшэнная трагедыя: падчас пажару, які раптоўна ўспыхнуў на адным з паверхаў буйнога гандлёвага цэнтра "Зимняя вишня", загінулі 64 чалавекі. Сярод загінуўшых ёсць дзеці.*



Гандлёва-забаўляльны цэнтр "Зимняя вишня" быў пабудаваны ў 2013 годзе. Ягоная агульная плошча складае 23 тысячы квадратных метраў. У цэнтры месціліся боўлінг, кінатэатр, дзіцячая пляцоўка. Агонь ахапіў амаль адразу 1,5 тысячы квадратных метраў. У кінатэатры ў момант, калі пачаўся пажар, дэманстраваліся дзіцячыя фільмы. Як кажуць сведкі, нават пасля таго, як пачуўся пах дыму і нехта з прысутных крыкнуў "Пажар!", сеанс не быў спынены, і святло ў зале не ўключылі.

Па колькасці ахвяр пажар у Кемераве – адзін з шасці буйнейшых, што адбыліся на тэрыторыі Расіі за апошнія сто гадоў. У іх лік таксама ўваходзяць пажар у маскоўскім гатэлі "Россия" (1977 г., 42 ахвяры), у інтэрнаце Расійскага ўніверсітэта дружбы народаў (2003 г., 44 ахвяры), у Доме састарэлых у станіцы Камышоўская Краснадарскага краю (2007 г., 63 ахвяры), у пермскім забаўляльным клубе "Хромая лошадь" (2009 г., 153 ахвяры) і ў псіханеўралагічным інтэрнаце г.Лукі Наўгародскай вобласці (2013 г., 37 ахвяр).

РЭХА

# Украінскі міністр – пра БНР

Міністр замежных спраў Украіны Паўло Клімкін да 100-х угодкаў БНР выступіў з артыкулам "Украіна і Беларусь. Логіка гісторыі", які быў апублікаваны на сайце "Украінская праўда". "Нядаўна мы адзначылі 100-годдзе Украінскай Народнай Рэспублікі. І вось 25 сакавіка – 100 гадоў з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Думаю, што менавіта ўкраінскі прыклад натхніў беларускіх патрыётаў на стварэнне ўласнай дзяржавы. На жаль, УНР і БНР не выстаялі і былі знішчаны расійскімі і мясцовымі бальшавікамі", – піша Клімкін.

Варта нагадаць, што першай краінай, якая прызнала БНР, была якраз Украінская Народная Рэспубліка. У 1918 годзе ў Кіеў ездзіў паўнамоцны прадстаўнік БНР Аляксандр Цвікевіч, які, сярод іншага, вёў перамовы аб атрыманні міждзяржаўнага крэдыту.

Украінскі міністр адзначае падабенства гістарычных лёсаў БНР і УНР, нагадвае, што за больш як тысячу гадоў паміж Беларуссю і Украінай не было ні вайны, ні канфлікту, што павінна расцэньвацца як "надзвычайная цывілізацыйная каштоўнасць".

У артыкуле згадваюцца імёны Францішка Скарыны (Біблія якога "стала сваёй і на ўкраінскіх землях"), Сімяона Полацкага (які вучыўся ў Кіева-Магілянскай акадэміі), гетмана Піліпа Орліка (які нарадзіўся на Міншчыне і ўвайшоў у гісторыю як аўтар першай украінскай Канстытуцыі).

Міністр падкрэсліў, што ўкраінцы высока цэняць і тое, што многія беларусы салідарызуюцца з Украінай у яе барацьбе за незалежнасць, і згадаў Міхася Жызнеўскага, які ў 2014 годзе загінуў на Майдане ад кулі снайпера. "Нездарма ў 2016 годзе ў Кіеве быў адкрыты памятны знак беларусам, якія загінулі за Украіну", – зазначыў Клімкін.

Адзначыў украінскі міністр і пасрэдніцкую ролю Беларусі ва ўрэгуляванні ваеннага канфлікту на Данбасе. Усё гэта, падкрэсліў Клімкін, і стварае падмурак сяброўства паміж Украінай і Беларуссю, "якіх бы палітычных вектараў ні прытрымваліся кіраўнікі дзвюх краін у той ці іншы момант. Вядома ж, украінска-беларускае сяброўства можна патлумачыць братэрствам нашых народаў, але ўсе мы ведаем, што братэрства, на жаль, не заўжды дапамагае пазбегнуць канфліктаў, наадварот, часам комплекс "старэйшага брата" іх якраз і спараджае. Але ні ў нас, ні ў беларусаў, дзякаваць Богу, такога комплексу ніколі не было".

**Вячаслаў МІХАЛЮК.**

ЗА КРАТЫ

# Лідара каталонскіх сепаратыстаў арыштавалі ў Германіі

Ордар на арышт былога кіраўніка іспанскай правінцыі Каталонія Карлеса Пучдэмона германская паліцыя атрымала ў мінулую пятніцу ад іспанскага суда. Пасля таго як рэферэндум, які прайшоў у Каталоніі 1 кастрычніка, не быў прызнаны Мадрыдам і краінамі Еўрапейскага Саюза, спадар Пучдэмон знаходзіўся ў Бельгіі. Арыштавалі яго ў момант, калі ён пераехаў дзяржаўную мяжу Германіі з боку Даніі.

На радзіме Пучдэмону пагражае да 30 гадоў зняволення за заклікі да непадпарадкавання іспанскім уладам і да бунту.

Лідару каталонскіх сепаратыстаў 56 гадоў, ён прафесійны журналіст, аўтар некалькіх кніг. Жанаты на румынскай журналістцы Марчэле Топар; яны выхоўваюць дзвюх дачок. Апроч роднай каталонскай мовы валодае яшчэ чатырма.

Палітычная кар'ера Карлеса Пучдэмона пачалася з дэпутацтва ў парламенце Каталоніі; пасля ён быў абраны мэрам горада Жырона. Праз чатыры гады зноўку пераабраны ў рэгіянальны парламент – жэнералітат. Менавіта Пучдэмон з'яўляецца найбольш значнай постаццю ў барацьбе каталонцаў за выхад іх правінцыі са складу Іспаніі. Чым скончыцца гэтая барацьба, пакуль не вядома, але ўжо зразумела, што, хутчэй за ўсё, Карлес Пучдэмон стане адным з найбольш вядомых палітычных зняволеных у Еўропе.




У ДВУХ СКАЗАХ

***

У Вільнюсе адбыўся з'езд новай Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі. Яе ўзначаліў былы паплечнік Альгірдаса Бразаўскаса Гедымінас Кіркілас, які пэўны час займаў пасаду прэм'ер-міністра. Нягледзячы на тое, што з'езд віталі вышэйшыя дзяржаўныя служачыя, у тым ліку прэм'ер-міністр Саўлюс Сквярняліс, аналітыкі лічаць, што з'яўленне альтэрнатыўнай сацыял-дэмакратычнай партыі толькі аслабіць левы фланг літоўскай палітыкі.

***

Амерыканскі прэзідэнт Дональд Трамп прызначыў новага дарадцу па нацыянальнай бяспецы – былога амбасадара ЗША ў ААН Джона Болтана. Болтан мае рэпутацыю вельмі рашучага дыпламата і мянушку "апошні рыцар халоднай вайны".

***

У Францыі памёр ад ран 45-гадовы падпалкоўнік жандармерыі Арно Бяльтрам, які напярэдадні дабраахвотна замяніў сабой закладніцу падчас захопу тэрарыстам супермаркета. Да будынка, дзе ён працаваў, невядомыя ўжо некалькі дзён прыносяць белыя ружы.

***

Кіраўнікі МЗС Германіі і Францыі едуць у Ізраіль дамаўляцца аб умовах, якія дазволяць захаваць дзеянне так званай "ядзернай дамовы" з Іранам. Пасля таго як кіраўніцтва Ізраіля крытыкавала змест гэтай дамовы, Дональд Трамп паабяцаў выйсці з яе ўжо на пачатку будучага мая, бо, паводле яго слоў, сутнасць дамовы супярэчыць інтарэсам бяспекі ЗША і Ізраіля.

***

Камуністычная партыя Кітая ўзмоцніць кантроль за дзейнасцю сродкаў масавай інфармацыі. Кітайскае нацыянальнае радыё (China Radio International), Цэнтральнае тэлебачанне Кітая (China Global Television Network) будуць аб'яднаны ў адзіны холдынг "Голас Кітая" і разам з дзяржаўнымі друкаванымі выданнямі будуць падпарадкоўвацца непасрэдна Дэпартаменту прапаганды ЦК КПК.

***

Каля дзесяці школьнікаў з туркменскага горада Дашагуз былі дастаўлены ў паліцыю па абвінавачанні ў псаванні дзяржаўнай маёмасці: некаторыя з іх падчас гульні павалілі партрэт прэзідэнта Туркменістана і тапталі яго нагамі, а вучні з другой школы дамалявалі на партрэце спадару Бердымухамедаву вусы і бараду. Паліцыя і ўлады ніяк не каментуюць гэтую інфармацыю, але ж гараджане жартуюць, што будуць праверкі, ці не карыстаўся хтосьці газетай з фотаздымкам прэзідэнта ў прыбіральні.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Жыровіцкі абраз Божай Маці



Адной з найбольш шанаваных хрысціянскіх святынь на Беларусі здаўна лічыцца цудатворны Жыровіцкі абраз Божай Маці. Захоўваецца ён ва Успенскім саборы Жыровіцкага Свята-Успенскага мужчынскага манастыра.

Калісьці даўным-даўно на гэтым месцы шумеў дрымучы лес. Як і ўсё наваколле вёскі Жыровічы, што зараз у Слонімскім раёне, належаў ён падскарбію Вялікага Княства Літоўскага Аляксандру Солтану. Аднойчы летнім днём 1470 года мясцовыя пастухі пасвілі ў лесе кароў. У лясным паўзмроку заўважылі ў галінах лясной грушыдзічкі дзіўнае святло. Яны спусціліся з пагорка на бераг ручая і здзівіліся яшчэ больш. На дрэве, у зеленалістым атачэнні, як у шатах, незгасальным святлом праменіўся абраз Божай Маці са святым Сынам на правай руцэ. Пастухі знялі абраз з дрэва. Быў ён выразаны з каштоўнага каменя яшмы, невялікі, змяшчаўся на далоні рукі. Меў авальную форму. Усцешаныя, пастухі аднеслі абраз А.Солтану. Той схаваў яго ў куфэрак. Калі ж вечарам хацеў паказаць выяву Багародзіцы гасцям, абраза ў куфэрку не аказалася.

Праз некалькі дзён пастухі знайшлі зніклы абраз у тым самым лесе, над тым самым ручаём і на той жа дзікай грушы. Яны знялі яго і зноў перадалі гаспадару. Баярын Солтан зразумеў незвычайнасць падзеі. Ён сам пайшоў на месца з'яўлення абраза. Там даў абяцанне збудаваць царкву ў гонар Божай Маці. Неўзабаве з'явіўся драўляны храм, галоўны алтар якога знаходзіўся на месцы, дзе расла лясная груша.

У 1520 годзе царква згарэла. Меркавалі, што ў агні загінуў і каштоўны абраз. Аднак цудадзейная сіла ўратавала святыню. У той момант, калі ўвесь будынак быў ахоплены знішчальным полымем, абраз знік. Пазней яго знайшлі сялянскія хлапчукі. Пасля заняткаў яны вярталіся са школы. Непадалёк ад пажарышча заўважылі на камені незвычайнай прыгажосці дзеву ў прамяністым святле. Гэта быў той самы святы абраз, а перад ім гарэла свечка. Гэта так усхвалявала вернікаў, дадало іконе такой цудадзейнай сілы, што да яе пачалося сапраўднае паломніцтва. На месцы другога з'яўлення абраза была збудавана Яўленская царква, а той цудоўны камень дагэтуль служыць асновай прастола і мае збаўчую ад хваробаў сілу.

Неўзабаве быў заснаваны Жыровіцкі мужчынскі Свята-Успенскі манастыр. Яму аказваў спрыянне канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега, які пэўны час валодаў Жыровічамі. Ён перадаў манастыру шмат зямлі, а царкве ахвяраваў вялікі звон і беларускае рукапіснае Евангелле. Гэты ўнікальны помнік XV стагоддзя, які назвалі Евангеллем Сапегі, быў шыкоўна аздоблены, меў шмат малюнкаў. А ў багатай манастырскай бібліятэцы ў канцы XVIII стагоддзя захоўвалася 537 рукапісных кніг. Сярод іх былі і перапісаныя непасрэдна ў манастыры, і падараваныя багатымі фундатарамі.

Слава пра Жыровіцкі манастыр і цудатворны абраз Божай Маці разышлася па ўсёй Польшчы і Вялікім Княстве Літоўскім. Каля 10 тысяч паломнікаў розных веравызнанняў штогод наведвалі Жыровічы. Абраз Багародзіцы з'яўляўся святыняй і для ўніятаў, якія пэўны час валодалі манастыром. Першым ігуменам у гэты перыяд быў Ясафат Кунцэвіч. У Жыровічах знаходзілася рэзідэнцыя Брэсцкай і Літоўскай уніяцкіх епархій.

Цудатворнаму абразу прыязджалі пакланіцца высокія асобы Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага. У набажэнствах у гонар пашаноўнай святыні бралі ўдзел вялікія князі літоўскія і польскія каралі.

У 1730 годзе адбылася ўрачыстая каранацыя цудатворнага абраза. Кароны для Божай Маці і яе святога Сына былі выраблены ў Рыме і асвечаны Папай Бенедзіктам XIII. Іх упрыгожвалі каштоўныя камяні, сродкі на кароны ахвяравала княгіня Ганна Радзівіл з роду Сангушкаў.

Цудадзейная сіла іконы выяўлялася неаднаразова. Пры частых пажарах у Жыровічах абраз не толькі сам заставаўся цэлым, але і ўратоўваў ад агню будынкі манастыра. Вядомы прыклады вылечвання цяжка хворых і нават ажыўлення памерлых. Адна з такіх гісторый здарылася ў XVI стагоддзі.

Адзіная дачка бацькоў Вайнянкаў была смяротна хворая. У сваіх малітвах Ірына часта звярталася да Божай Маці Жыровіцкай. Аднойчы ў сне ўбачыла яна Багародзіцу, якая клікала яе ў Жыровічы. Ды хворыя ногі не дазвалялі нават па хаце хадзіць, не слухаліся рукі. Бацькі павезлі семнаццацігадовую дачку ў выратавальны шлях. Па дарозе яна памерла. Калі на трэці дзень у галоўным Жыровіцкім храме адбываўся апошні развітальны абрад, памерлая раптам устала і накіравалася да абраза Божай Маці. Пасля яна расказала, што Багародзіца сышла да яе з цудадзейнага абраза, дакранулася да рук, ног і галавы. Загадала ўсе астатнія дні жыцця правесці ў манастыры. Дзяўчына так і зрабіла, пасялілася ў Пінскім манастыры. А 10 сакавіка 1580 года вялікі князь літоўскі і кароль польскі Стэфан Баторый узвёў яе ў сан настаяцельніцы.

Абраз набыў шырокую вядомасць. Яго копію ў XVIII стагоддзі на сцяне базіліянскага манастыра ў Рыме напісаў невядомы беларускі іканапісец. Гэты абраз стаў вядомы як Багародзіца-Жывіцельніца.

А Жыровічы па-ранейшаму з'яўляюцца вабным месцам паломніцтва для хрысціян не толькі Беларусі. Яны ідуць сюды, каб узнесці хвалу цудатворнаму абразу і святой Багародзіцы: «Величаем Тя, Пресвятая Дево, и почитаем честную икону Твою, юже от лет древних в веси Жировистей прославила еси».

Каб папрасіць заступніцтва за краіну нашу і яе народ: «Испроси такожде, Владычице, у Господа властем предержащим и градоправителем мудрость и силу, судиям – правду и нелицеприятие, всем же притекающим к Тебе – дух целомудрия, смиренномудрия, терпения и любве. …Осени страну нашу кровом Твоея благостыни и избави ю от бедствий стихийных, нашествия иноплеменников и междоусобных нестроений, да вси, живущии в ней, в любви и мире пребывающе, тихое и безмятежное житие поживут…»

Кожны год 20 мая вернікі Беларусі адзначаюць вялікае свята цудатворнага Жыровіцкага абраза Божай Маці, пакланяючца яму і самі ачышчаюцца ад нядобрага і злога.

ПАМЯЦЬ

# У Празе знайшлі магілу консула БНР

Магіла консула Беларускай Народнай Рэспублікі Міколы Вяршыніна ў Празе лічылася страчанай. Яе нядаўна адшукаў на Альшанскіх могілках былы інжынер Мінскага завода вылічальнай тэхнікі Сяргей Кнырэвіч, які ўжо 20 гадоў жыве і працуе ў Чэхіі і займаецца гістарычнымі пошукамі. Здарылася гэта выпадкова – даследчык шукаў месца пахавання Аляксандра Калошы, вядомага беларускага дзеяча, якому пашчасціла вярнуцца ў Чэхаславакію са сталінскага ГУЛАГа. Адшукаўшы магілу Калошы, Сяргей Кнырэвіч запаліў на ёй зніч і паклаў пад яго запіску, адрасаваную нашчадкам. Праз пэўны час адгукнуліся ўнучкі Калошы і паведамілі, што іхні дзед быў пахаваны ў... магілу Міколы Вяршыніна.

Рада БНР надала прадстаўнічыя паўнамоцтвы Міколу Вяршыніну ў 1919 годзе. Сярод заслуг консула – каля сотні стыпендый, выдзеленых чэхаславацкім урадам для беларускіх студэнтаў. Сярод стыпендыятаў можна згадаць імёны будучых знаных дзеячаў БНР Міколы Абрамчыка (прэзідэнт БНР з 1947-га па 1970 год), Вінцэнта Жук-Грышкевіча (старшыня Рады БНР у 1971–1982 гады), Лявона Рыдлеўскага (намеснік старшыні Рады БНР у 1947–1953 гады).

Дачка Міколы Вяршыніна Вольга была замужам за Аляксандрам Калошам, які ў 1947-м стаў грамадзянінам Чэхаславакіі, але праз год на патрабаванне Масквы быў выдадзены ў СССР (разам з Янкам і Ларысай Геніюшамі). Вярхоўны суд БССР прысудзіў яго (як і Геніюшаў) да 25 гадоў няволі – "за ўдзел у беларускіх антысавецкіх арганізацыях". Пасля смерці Сталіна Калошу ўдалося не толькі датэрмінова выйсці на волю, але і выехаць у Чэхаславакію. Ён памёр у 1985 годзе і быў падхаваны ў магілу цесця Міколы Вяршыніна. Аднак імя апошняга на надмагіллі па невядомых прычынах не было пазначана.

Як паведаміла Радыё Свабода, да 100-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі на магіле яе дыпламатычнага прадстаўніка ўсталявана адпаведная шыльда.

**Антось БРЫЛЕЎСКІ.**

ДЫСКУСІЯ

# Знайсці свой пасад між народамі

*Гісторыкі з розных краін разважалі ў Варшаве пра тое, чаму ўзнікла і не захавалася БНР*

На мінулым тыдні гісторыкі з розных краін у самым цэнтры польскай сталіцы глядзелі ў бок Мінска. Яны разважалі, чаму ў свой час БНР мела маркі, але не мела пошты, мела пашпарты, але не мела дзяржаўных межаў. Разабрацца ў дэталях прапанаваў нямецкі даследчык **Фелікс Акерман.**

Адной з пляцовак для дыскусіі стаў Нямецкі гістарычны інстытут у Варшаве. Месца было выбрана невыпадкова. БНР узнікла падчас Першай сусветнай вайны, якую развязала ў тым ліку і Германія. На немцаў, дарэчы, лідары БНР ускладалі немалыя надзеі. Што прызнаюць беларускую дзяржаву (прызналі ж Украіну, Літву!). Што дадуць магчымасць пачаць будаваць яе не толькі на паперы.

Немцы не пайшлі насустрач беларусам так далёка, як ад іх чакалі. Але ці былі беларусы адзінокія ў сваім жаданні стварыць уласную рэспубліку? Вось гэта, бадай, самае цікавае пытанне. Ім задаліся ўдзельнікі форуму «Сто гадоў часовасці. Непрызнаныя дзяржавы ў канцы Першай сусветнай вайны і пасля халоднай вайны».

Як адзначыў **Мацей Гурны**, прафесар Інстытута гісторыі Польскай акадэміі навук, даследчык палітычнай геаграфіі Еўропы XIX–XX стагоддзяў, у 1918 годзе БНР была не адзінай новаабвешчанай дзяржавай:

– Гэты год адзначыўся лавінай новых дзяржаў, якія ўзнікалі ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе, на Балканах. Усё гэта адбывалася невыпадкова. На пачатку 1918 года амерыканскі прэзідэнт Вудра Вільсан заявіў аб праве народаў на самавызначэнне. Гэтыя словы ўпалі на ўрадлівую глебу. У той час усе хацелі аднаго – заканчэння вайны, развязанай еўрапейскімі імперыямі. Людзі, дзяржавы былі стомлены. І адначасова многія народы, якія знаходзіліся ў складзе імперый, адчувалі, што прыйшоў іх час рэалізаваць права гаспадарыць самім на сваёй зямлі. Імперыі ўжо тады рабілі саступкі на карысць нацыянальных груп. Напрыклад, у Расіі і Аўстра-Венгрыі справы бежанцаў перадаваліся ад цэнтральных урадаў нацыянальным арганізацыям. У Расіі літоўцамі займаліся літоўцы, яўрэямі – яўрэі. (*Было створана і Беларускае таварыства помачы пацярпелым ад вайны.* – **В.К.**) У Аўстра-Венгрыі чэхі стварылі свае дабрачынныя структуры, немцы – свае. Праўда, не абыходзілася без кур'ёзаў, калі ў Празе чэхі карысталіся нямецкімі сталовымі.

Пытанне хлеба было надзённым. Але не адзіным, што турбавала людзей у розных кутках нашай часткі Еўропы. Як адзначае М.Гурны, беларусам і іншым народам шлях да незалежнасці падказалі іх суседзі. Аказалася, што раней немагчымае можа быць цалкам рэальнай справай. Калі Германія, Аўстра-Венгрыя пачалі на рубяжы 1917 і 1918 гадоў перагаворы ў Брэсце з Савецкай Расіяй і ў гэтых размовах удзельнічала на роўных правах толькі што створаная Украінская Народная Рэспубліка, стала відавочна: новыя дзяржавы могуць быць прызнаны «старымі».

З'явілася надзея і ў беларусаў, што іх таксама дапусцяць да міжнароднага "круглага стала". Аднак мы сёння ведаем, што бальшавікі, з аднаго боку, спачатку дазволілі, а потым разагналі Усебеларускі з'езд. А з другога боку, немцы яшчэ ў снежні 1917 годзе дазволілі літоўцам абвясціць незалежнасць. Аднак пачалі перадаваць уладу літоўскаму ўраду толькі 11 лістапада 1918-га, калі прайгралі вайну… Дарэчы, у той жа дзень, калі абвясціла незалежнасць Польшча.

Аднак М.Гурны ў гэтай сітуацыі заўважае яшчэ адзін фактар, які ўскладняў шлях да незалежнасці:

– Новыя дзяржавы адразу сталі сапернічаць паміж сабой. Так, палякі выступілі супраць далучэння са згоды Германіі былой Холмскай губерні да Украіны (*цяпер гэта ваколіцы польскага горада Хэлм, дзе калісьці ўкраінцы і палякі жылі ўперамешку.* – **В.К.**). У Вене, у парламенце Аўстра-Венгрыі, пачалі выказваць свае прэтэнзіі да ўрада імперыі чэхі, славенцы. Ствараліся «нацыянальныя рады», якія былі гатовы ў любы момант узяць у свае рукі ўладу на месцах – на славянскіх ускраінах імперыі. І яны гэтую ўладу ўзялі. 1 снежня 1918 года з'яўляюцца чэхаславацкая і югаслаўская дзяржавы.

Беларуская дзяржава з'явілася толькі як дэкларацыя. Чаму ж ад слоў не ўдалося перайсці да справы – да атрымання ўлады на сваёй тэрыторыі?

Шведскі гісторык і выкладчык еўрапейскай гісторыі ва Універсітэце ў Сінгапуры **Пэр Андэрс Рудлінг** спецыяльна прыляцеў у Варшаву, каб падзяліцца сваіміназіраннямі за беларусамі ў пачатку XX стагоддзя. На яго думку, беларусы ў 1918 годзе толькі атрымалі сваю граматыку, тым часам як украінцы, паводле меркавання вучонага, – яшчэ ў 1840-я. На жаль, да 1918 года не для ўсіх яшчэ было відавочна, што беларусы ўвогуле існуюць у прыродзе:

– Нямецкія акупацыйныя ўлады спярша думалі, што сутыкнуліся з насельніцтвам з вельмі нізкай культурай. А беларускі нацыянальны рух у той час быў яшчэ занадта слабы. Фактычна немцы толькі «адкрывалі» для сябе гэты народ.

Каб цяпер правільна зразумець ход гістарычных падзей стогадовай даўнасці, трэба апераваць тымі паняццямі, якія існавалі ў той час, у тым ліку ўлічваць аспекты міжнароднага права – тагачаснага, а не сённяшняга. На гэта звярнуў увагу **Лукаш Адамскі**, намеснік дырэктара Цэнтра польска-расійскага дыялогу і паразумення:

– Калі мы гаворым аб праве народа на самавызначэнне, то павінны памятаць, што гэта права можа супярэчыць іншым прававым прынцыпам – напрыклад, тэрытарыяльнай цэласнасці ўжо існуючай дзяржавы. Новыя дзяржавы могуць успрымацца «старымі» як сепаратысцкія.

І тут Л.Адамскі перакінуў мост у нашы часы. Маўляў, а ці можна параўноўваць БНР, якая 25 сакавіка 1918 года абвясціла незалежнасць, з такімі сучаснымі ўтварэннямі як ЛНР і ДНР? І патлумачыў:

– ЛНР і ДНР – гэта так званыя «тэрарыстычныя» рэспублікі. Іх не прызнаюць і ніколі не прызнаюць іншыя дзяржавы. Яны ўзніклі ў выніку парушэння прынцыпаў міжнароднага права. Тым часам БНР абвясціла аб сваёй незалежнасці пасля падпісання Савецкай Расіяй і Германіяй Брэсцкага дагавора. Паводле гэтага дагавора, Расія адмаўлялася ад правоў на некаторыя свае былыя тэрыторыі, у тым ліку на частку Беларусі. Значыць, з прававога пункту гледжання БНР абвяшчалася незалежнай, не парушаючы законаў Расіі. Бо гэта ўжо была не расійская тэрыторыя.

М.Гурны ўпэўнены, што для легітымізацыі новай дзяржавы ў той час можна было выкарыстоўваць розныя аргументы. Пытанне ў тым, што стаіць за гэтымі аргументамі:

– Самае галоўнае для новай дзяржавы – каб яна была моцная ўнутры, каб быў той цэнтр, вакол якога магла б фарміравацца дзяржаўная тэрыторыя. І часам мала адных этнаграфічных даных, каб сцвярджаць, што вось гэты народ або яго частка хоча жыць у новай дзяржаве. Напрыклад, ва Усходняй Прусіі, паводле нямецкай статыстыкі, пэўная частка насельніцтва на пачатку XX стагоддзя гаварыла па-польску. Аднак падчас плебісцыту большасць польскамоўных жыхароў выказалася не за тое, каб далучыцца да Польшчы, а каб застацца ў складзе Прусіі.

У 1919 годзе, калі ўрад БНР ужо знаходзіўся далёка ад Мінска – у Гродне, там была выдадзена брашура прафесара Кіеўскага ўніверсітэта, ураджэнца Беларусі Мітрафана Доўнар-Запольскага «Асновы Дзяржаўнасці Беларусі». Да яе была далучана карта Беларускай Народнай Рэспублікі. Не рэальнай, а той, якая бачылася ў ідэале: з Беластокам, Вільняй, Смаленскам. Межы рэспублікі акрэсліваліся паводле даных мовазнаўства: дзе людзі гаварылі па-беларуску, там і была Беларусь.

Аднак адна справа – навука. Другая – рэчаіснасць. Беларускамоўныя людзі ў той час мелі вельмі нізкі ўзровень нацыянальнай свядомасці. Многія з іх нават не ведалі, што яны – беларусы. Лічылі сябе хто тутэйшым, а хто – рускім, палякам. Таму, з пункту гледжання знешняга назіральніка, беларусы існавалі. А з пункту гледжання саміх сябе?

Адкажыце на гэта пытанне сёння вы – сучасныя жыхары Беларусі.

Дарэчы, карту рассялення беларускамоўнага насельніцтва, праобраз карты БНР, склаў нараджэнец Гродзеншчыны, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта, яго шматгадовы рэктар Яўхім Карскі. Таму, мабыць, зусім невыпадкова, што і дагэтуль у Варшаве працягваюцца традыцыі беларусазнаўства. Пры ўніверсітэце існуе кафедра беларусазнаўства. Да стагоддзя БНР кафедра правяла дыктоўку па беларускай мове, навуковую канферэнцыю. Як сказала яе загадчык прафесар Ніна Баршчэўская, гэта тое, што мы можам зрабіць у памяць тых людзей, якія стаялі ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці.

**Віктар КОРБУТ.**

*Варшава.*



**Дыскусія ў Нямецкім гістарычным інстытуце ў Варшаве праходзіла пад картай БНР. Злева направа: Фелікс Акерман, Клаўс Рыхтэр, Пэр Андэрс Рудлінг, Мацей Гурны.**

ЧИТАТЕЛЬ – ГАЗЕТА

# Я сфальшивила…

В одном из предыдущих номеров газеты "Народная Воля" я опубликовала заметку о солистке Большого театра Елене САЛО. Прекрасной певице, заслуженной артистке, обладателе медали Франциска Скорины, лауреате международного конкурса. А звания, как вы понимаете, с неба не падают – Елена самозабвенно предана сцене, театру, вокалу.

Но в заметке я писала не о высоком призвании певицы, а сообщала вещи приземленного характера: артистка заболела, ее концерт отменяется. И, обладая приватной информацией о причине болезни артистки, добавила в заметку лишних "красок". Они, конечно, не были врачебной тайной, но все-таки достаточно интимными. Потому что голос для певца – понятие сакральное, артист бережет его не только физически, но относится как к чему-то священному, достаточно тайному.

А журналисту в силу профессии всегда хочется выдать эксклюзивную информацию. Все мы находимся сейчас в условиях рынка – и те, кто создает информационное поле, и даже те, кто создает искусство. Большой театр ведь тоже борется за зрителя. Прямо сейчас, в марте и апреле, в театре проходит акция совместно с аквапарком «Лебяжий»: если у вас есть билет в Большой, то в бассейне вам предоставляется скидка. Несколько экстравагантно, не правда ли, для такого учреждения, как Большой театр? С другой стороны, в человеке, как говорится, все должно быть чисто и прекрасно: тело и душа, плоть и помыслы… Пусть зритель будет развит гармонично!

Так и наша газета строит свою политику: серьезные материалы и развлекательные заметки идут рядом. Мы очень часто публикуем обстоятельные материалы из Большого театра, но и закулисье одна из любимых наших рубрик. Поэтому, сообщая о нездоровье солистки, я никак не хотела обидеть известную певицу Большого театра. А получилось именно так. Я нанесла человеку эмоциональную травму.

Я публично приношу певице Елене Сало свои извинения.

Да, с моей стороны это было бестактностью. Я вдруг ("вдруг" – потому что за спиной большой опыт работы в СМИ) потеряла слух. Сфальшивила, если пользоваться музыкальной лексикой. Так ведь бывает и с певцами на сцене, правда? Даже с самыми-самыми. И, конечно, это всегда возмущает, потому что становится нарушением гармонии. Которую надо беречь как настоящий источник жизни.

Мы желаем Елене Сало и концертмейстеру Ирине Телепневой отменного здоровья и настоящего творческого счастья! «Народная Воля» очень дорожит сотрудничеством с Большим театром Республики Беларусь – действительно большим, уникальным музыкальным учреждением отечественной культуры.

**Елена МОЛОЧКО.**

РЭКАНСТРУКЦЫЯ

# Як выглядае сёння стадыён «Дынама»?



Рэканструкцыя галоўнай арэны краіны пачалася яшчэ ў 2012 годзе, але з-за розных арганізацыйных і фінансавых складанасцяў да гэтага часу працягваецца.

У 2019 годзе ў Мінску пройдуць Еўрапейскія гульні, і да таго часу рамонт "Дынама" закончыцца абавязкова. А вось генеральны сакратар НАК Беларусі Анатоль Котаў заявіў, што стадыён могуць здаць ужо ў чэрвені гэтага года. Ці паспеюць?

**Віктар ШПАК.**

ЗАКУЛІССЕ

# Купалаўцы ладзяць палёт у «Прудок»



Днямі ў тры гадзіны апоўдні на Камернай сцэне Купалаўскага тэатра загучалі касмічныя пазыўныя – пачалася прэс-канферэнцыя, прысвечаная новаму спектаклю, а дакладней – палёту на невядомую планету «Радзіва «Прудок». Хаця чаму невядомую? Год таму выйшла кніга Андруся Горвата з аднайменнай назвай, нарабіла нямала добрага чытацкага шуму, як быццам яе аўтар з космаса, а не з палескай вёскі, выдавецтву нават прыйшлося дадрукоўваць наклад кнігі. А цяпер у Купалаўскім тэатры рыхтуецца спектакль «Радзіва «Прудок», які ўзяўся ставіць вядомы акцёр Раман Падаляка. Ён сказаў:

– Мы запланавалі рызыкоўнае, але вельмі цікавае падарожжа, і, калі ўсё будзе добра, 16–17 мая мы паспяхова прызямлімся, адчуем зямлю пад нагамі. Як я пазнаёміўся з Андрусём? Ведаеце, аднойчы каля тэатра я ўбачыў, як чалавек у малінавых джынсах вельмі асцярожна падмятае тратуар. А лісце кружыцца, кружыцца... Я падумаў: цікавы чалавек, трэба да яго падысці. Але потым, як усякі беларус, спыніўся: «А можа, не трэба? Можа, у чалавека абставіны, што ён працуе дворнікам? Але ж цікава – у малінавых джынсах...» Прайшоў час, і вось малады пісьменнік Андрусік Горват сядзіць у Купалаўскім тэатры і падпісвае мне сваю кнігу «Радзіва «Прудок». І што я там чытаю? «Раману Падаляку, чалавеку, да якога я баяўся падысці». Добра, што зараз страх знік у нас абодвух, і я нарэшце магу падысці і падзякаваць Андрусю за творчасць і спытаць: як ты гэта ўсё ўспрымаеш? Праходзіць літаральна два гады – і мы сядзім тут і абмяркоўваем спектакль.

– Папраўдзе, я дагэтуль адчуваю сябе дворнікам, – адказаў Андрусь Горват. – А калі заходжу ў тэатр, то, мне здаецца, у мяне адбываецца юбілей. І ён ніяк не скончыцца. Сур'ёзна ўспрыняць тое, што мая кніга стала асновай для спектакля, я дагэтуль не магу.

На пытанне, як аўтар ставіцца да таго, што ў спектаклі, напэўна, будуць змены ў параўнанні з кнігай, Андрусь філасофскі заўважыў:

– Калі зменяць кнігу да такой ступені, што галоўны герой стане трансвестытам, то і тады я з цікавасцю паглядзеў бы спектакль. Папраўдзе, не бачу ніякіх праблем, кніга напісана, яна жыве, гэта мой твор, а спектакль – твор купалаўцаў. Мая задача – проста не перашкаджаць.

У новым спектаклі будуць заняты акцёры Святлана Анікей, Міхаіл Зуй, Зміцер Есяневіч. Пасля прэм'еры ў сталіцы плануецца, што спектакль пакажуць у вёсцы Прудок на Палессі аднавяскоўцам Андруся, пра якіх і напісана яго кніга. І гэта, лічаць купалаўцы, будзе галоўны паказ.

**Алена МАЛОЧКА.**

КРЫМІНАЛ

# Падазраецца ў сістэматычным атрыманні грашовых сродкаў

*По падазрэнні ў атрыманні хабараў затрыманы намеснік начальніка будаўнічага ўпраўлення, якое ўзводзіць другую ўзлётную паласу Нацыянальнага аэрапорта Мінск.*

Пра інцыдэнт паведамляе прэс-служба Камітэта дзяржкантролю.

Паводле дадзеных следства, ён падазраецца ў "сістэматычным атрыманні грашовых сродкаў" ад кіраўнікоў суб'ектаў гаспадарання, якія прыцягваліся для будаўніцтва ўзлётнай паласы. У паведамленні адзначаецца, што затрыманаму інкрымінуецца атрыманне ў 2017 годзе хабараў на 15 тыс. долараў у эквіваленце за выдзяленне аб'ёмаў будаўнічых работ.

У дачыненні да намесніка начальніка будаўнічага ўпраўлення распачата справа па ч.1 арт.430 Крымінальнага кодэкса, праводзяцца следчыя дзеянні. Падазроны заключаны пад варту.

Таксама адпрацоўваецца інфармацыя аб атрыманні ім хабараў ад службовых асоб шэрагу іншых камерцыйных арганізацый.

ЖАХ!

# Прывязалі да ложка і патрабавалі грошы

У ноч на панядзелак у вёсцы Русіна Баранавіцкага раёна ў дом да 70-гадовай пенсіянеркі, якая жыве адна, пранікілі дзве жанчыны і мужчына ў масках і пальчатках.

Паводле папярэдняй інфармацыі, у тых, хто нападаў, быў нож, а перад тым, як увайсці ў дом, яны перарэзалі тэлефонны кабель. Злачынцы прывязалі гаспадыню дома да ложка, збілі і запатрабавалі грошай. Потым скралі 250 рублёў і шчыклі.

Пацярпелая знаходзіцца ў шпіталі. Баранавіцкі міжраённы аддзел Следчага камітэта РБ узбудзіў крымінальную справу па артыкуле "рабаванне, здзейсненае групай асоб" (ч.2 арт.206 КК РБ). Злачынцаў пакуль не затрымалі.

ОТКРОВЕННЫЙ РАЗГОВОР

## Светлана САХОНЕНКО:

# «На кон поставила все – и здоровье, и свободное время»

*Трехкратная победительница Паралимпиады рассказала «Народной Воле», какова цена наград.*



Сказать, что на Паралимпийских играх в Южной Корее новополоцкая спортсменка **Светлана САХОНЕНКО** выступила успешно, – значит не сказать ничего. В спорт после продолжительной паузы она вернулась за год (!) до стартов в Пхенчхане и сразу завоевала 4 (!) медали – три золотые в лыжных гонках и серебряную в биатлонном спринте. Это, можно сказать, спортивный подвиг!

– Безусловно, я мечтала о большом спорте, – признается Светлана. – Но, как говорят, человек предполагает, а Бог располагает. В 4-м классе начало ухудшаться зрение, но тогда это не казалось большой проблемой. Врачи отмахивались и говорили моей маме: вы не принимайте болезнь близко к сердцу. Мол, близорукость у каждого второго человека, ребенок вырастет – и зрение восстановится. Но со временем становилось все хуже и хуже.

**– Все было настолько серьезно?**

– Да. В 2010 году зрение перестало корректироваться. В линзах и очках картинка становилась более яркой, но расплывалась. Было очень больно, когда стала понимать, что на мечтах придется поставить крест… У меня сейчас зрение минус двенадцать. Я вижу силуэты домов, машин, которые движутся, но это все нечетко. Если хорошо знаю походку людей или во что они одеты, то, конечно, могу узнать кого-то, но иногда даже не понимаю, кто передо мной – мужчина или женщина. Хотя ориентируюсь достаточно хорошо, потому что у слабовидящих логическое мышление работает гораздо лучше и быстрее. Это все появилось именно с ухудшением зрения – например, слух обострился… Если что-то в организме дает сбой, то где-то увеличивается концентрация.

**– Наверняка раньше вы обращались к врачам…**

– Прошла всех новополоцких специалистов, обращалась к витебским. Была практически у всех профессоров 10-й клинической больницы в Минске. Но до сих пор точный диагноз никто так и не установил. Врачи не знают, что происходит в моем организме. Говорят так: максимум, что мы можем сделать, это удерживать болезнь на сегодняшнем уровне. Так что раз в полгода обязательно прохожу плановое лечение, укрепляю сетчатку глаза.

Мне сказали, что атрофия зрительного нерва идет от головного мозга, ее очень сложно определить. Так что теории строят разные, а на практике ничего не меняется. Зрение с каждым годом ухудшается, от атрофии идет дистрофия. Ослабляются мышцы, внимание, есть и другие побочные эффекты.

**– А спорту это не мешает?**

– Понимаете, я ведь лыжами начала заниматься еще в 4-м классе, когда была здоровым человеком. В 9-м классе поступила в училище олимпийского резерва, но на свой страх и риск. Болезнь прогрессировала, так что пришлось писать заявление, что ответственность за мое зрение несут родители. Но в 11-м классе стало понятно, что в национальную команду дорога мне заказана. Никто не взял бы на себя такую ответственность. Я думала, что на этом мой спорт закончился.

Позже в моей жизни появился тренер Анатолий Иванович Перепечкин, который работал с паралимпийцами, он и предложил мне этот вариант занятия спортом. Но, честно говоря, на тот момент я сама не знала, нужно ли мне это. Выступать на соревнованиях для инвалидов? Мне казалось, что будет задета моя гордость. К тому же, когда мы отправились на международную комиссию по допуску к участию в паралимпийских турнирах, мне дали от ворот поворот – я для них была «слишком здоровая». И «обнадежили»: мол, не переживайте, болезнь у вас прогрессирует, так что обращайтесь позже.

А мне не хотелось больше никому и ничего доказывать. Вы не представляете, как было обидно! Они же, те люди в комиссии, думали, что я – здоровый человек, который врет и симулирует болезнь. Что у меня лишь одно желание – обманным путем попасть в паралимпийский спорт. И я просто ушла в себя. Мне не хотелось видеть ни спорт, ни паралимпийцев.

**– Чем вы после этого занимались? Работать где-то надо было…**

– Была в спортшколе инструктором-методистом, работала на полставки тренером, кое-где еще подрабатывала. Но в один прекрасный момент руководитель Паралимпийского комитета Беларуси Олег Александрович Шепель предложил мне работу в Минске, в отеле «Губернский».

**– Вот это карьерный рост!**

– Я человек образованный, владею разговорным английским, так что справлялась с работой на все сто процентов, даже несмотря на проблемы со зрением. Логическое мышление плюс немного обаяния – все это помогало.

**– Вы долго проработали в отеле?**

– Три с половиной года. И, надо сказать, что там получила очень важный жизненный опыт. Четырехвездочная гостиница – это отель достаточно высокого уровня. Контингент был серьезный, приезжали бизнесмены, с которыми приходилось общаться. У них было чему поучиться. Они меня и вдохновили на то, что в жизни можно достичь всего, чего пожелаешь. Главное – работать, работать и еще раз работать!

А потом одна моя знакомая предложила снова подать документы на международную комиссию, которая дает допуск на участие в паралимпийском спорте. Я отказалась, но знакомая оказалась настойчивой и сама подала все бумаги за меня. И на этот раз я прошла комиссию без проблем. Там даже удивились: «Почему раньше к нам не обращались?»

**– Вы столько не занимались спортом, а затем снова нужно было начинать с нуля… Каково это было?**

– Не поверите, но я впервые после долгого перерыва встала на лыжи, выступила на этапе Кубка мира и заняла 5-е место в спринте! Вся моя любовь к спорту вспыхнула с такой силой, что тлеющий уголек превратился в огонь. Мы начали готовиться к чемпионату мира, и уже через месяц я стояла на пьедестале.

**– Это правда, что к Паралимпиаде вы сильно потеряли в весе?**

– За последнее время похудела где-то на 10 килограммов. Это все от изнурительных тренировок, организм, наверное, не был готов к таким нагрузкам. А мне надо было все и сразу, потому что знала: без результата не будет зарплаты. Я это понимала и перед Паралимпиадой, а поэтому на кон поставила все – и здоровье, и свободное время.

**– Светлана, а как на родине встречали героиню Паралимпиады?**

– До сих пор звонят с поздравлениями, а в аэропорту был настолько теплый прием, что я растрогалась до слез.

Дома тоже все ждали с нетерпением: мама, три брата, сестра, мой молодой человек, с которым мы пока не расписаны, и кот. Кстати, мой парень подарил огромный букет роз и сам приготовил шикарный ужин с десертом. Ради такого стоит жить и побеждать!

**Алесь СИВЫЙ.**

ФУТБОЛЬНЫЙ КАЛЕНДАРЬ

# Полное расписание чемпионата Беларуси по футболу на 2018 год

Напомним, что минскому клубу «Крумкачы» отказано в лицензии на участие в первенстве, сейчас вместо него в элитном дивизионе будет выступать минское «Торпедо».

## ПЕРВЫЙ КРУГ

### 1-Й ТУР (30–31 МАРТА, 1 АПРЕЛЯ)

**30 марта**
Неман (Гродно) – Витебск
Луч (Минск) – Минск

**31 марта**
Динамо (Минск) – Торпедо-БелАЗ (Жодино)
Шахтер (Солигорск) – Динамо (Брест)
Гомель – Слуцк

**1 апреля**
Ислочь (Минский район) – Торпедо (Минск)
БАТЭ (Борисов) – Смолевичи
Городея – Днепр (Могилев)

### 2-Й ТУР (5–7 АПРЕЛЯ)

**5 апреля**
Слуцк – Неман
Динамо (Бр) – Луч

**6 апреля**
Торпедо-БелАЗ – Смолевичи
Минск – БАТЭ
Днепр – Гомель

**7 апреля**
Динамо (Мн) – Ислочь
Торпедо – Городея
Витебск – Шахтер

### 3-й тур (13–15 апреля)

**13 апреля**
Шахтер – Слуцк
Луч – Витебск

**14 апреля**
Неман – Днепр
БАТЭ – Динамо (Бр)
Ислочь – Торпедо-БелАЗ

**15 апреля**
Гомель – Торпедо
Городея – Динамо (Мн)
Смолевичи – Минск

### 4-Й ТУР (21–23 АПРЕЛЯ)

**21 апреля**
Слуцк – Луч
Торпедо-БелАЗ – Минск
Динамо (Мн) – Гомель

**22 апреля**
Динамо (Бр) – Смолевичи
Ислочь – Городея
Торпедо – Неман

**23 апреля**
Витебск – БАТЭ
Днепр – Шахтер

### 5-Й ТУР (27–29 АПРЕЛЯ)

**27 апреля**
Гомель – Ислочь
Минск – Динамо (Бр)

**28 апреля**
Шахтер – Торпедо
Неман – Динамо (Мн)
БАТЭ – Слуцк

**29 апреля**
Луч – Днепр
Смолевичи – Витебск
Городея – Торпедо-БелАЗ

### 6-Й ТУР (4–7 МАЯ)

**4 мая**
Слуцк – Смолевичи

**5 мая**
Ислочь – Неман
Витебск – Минск
Городея – Гомель

**6 мая**
Торпедо-БелАЗ – Динамо (Бр)
Днепр – БАТЭ
Динамо (Мн) – Шахтер

**7 мая**
Торпедо – Луч

### 7-Й ТУР (11–14 МАЯ)

**11 мая**
Смолевичи – Днепр

**12 мая**
Гомель – Торпедо-БелАЗ
Динамо (Бр) – Витебск
Минск – Слуцк

**13 мая**
БАТЭ – Торпедо
Неман – Городея
Шахтер – Ислочь

**14 мая**
Луч – Динамо (Мн)

### 8-Й ТУР (20–22 МАЯ)

**20 мая**
Динамо (Мн) – БАТЭ
Торпедо – Смолевичи
Днепр – Минск

**21 мая**
Слуцк – Динамо (Бр)
Торпедо-БелАЗ – Витебск
Гомель – Неман

**22 мая**
Городея – Шахтер
Ислочь – Луч

### 9-Й ТУР (26–29 МАЯ)

**26 мая**
Минск – Торпедо

**27 мая**
Луч – Городея
Шахтер – Гомель
Смолевичи – Динамо (Мн)

**28 мая**
Неман – Торпедо БелАЗ
БАТЭ – Ислочь

**29 мая**
Динамо (Бр) – Днепр
Витебск – Слуцк

### 10-Й ТУР (1–3 ИЮНЯ)

**1 июня**
Динамо (Мн) – Минск
Неман – Шахтер

**2 июня**
Днепр – Витебск
Торпедо – Динамо (Бр)
Городея – БАТЭ

**3 июня**
Ислочь – Смолевичи
Торпедо-БелАЗ – Слуцк
Гомель – Луч

### 11-Й ТУР (11–13 ИЮНЯ)

**11 июня**
Луч – Неман
Смолевичи – Городея

**12 июня**
Минск – Ислочь
Слуцк – Днепр
Витебск – Торпедо

**13 июня**
Динамо (Бр) – Динамо (Мн)
БАТЭ – Гомель
Шахтер – Торпедо-БелАЗ

### 12-Й ТУР (16–18 ИЮНЯ)

**16 июня**
Торпедо – Слуцк
Городея – Минск

**17 июня**
Шахтер – Луч
Неман – БАТЭ
Торпедо-БелАЗ – Днепр

**18 июня**
Ислочь – Динамо (Бр)
Гомель – Смолевичи
Динамо (Мн) – Витебск

### 13-Й ТУР (22–25 ИЮНЯ)

**22 июня**
Днепр – Торпедо

**23 июня**
Смолевичи – Неман
Минск – Гомель
Динамо (Бр) – Городея

**24 июня**
БАТЭ – Шахтер
Слуцк – Динамо (Мн)
Луч – Торпедо-БелАЗ

**25 июня**
Витебск – Ислочь

### 14-Й ТУР (29 ИЮНЯ – 1 ИЮЛЯ)

**29 июня**
Гомель – Динамо (Бр)
Луч – БАТЭ

**30 июня**
Ислочь – Слуцк
Неман – Минск
Торпедо-БелАЗ – Торпедо

**1 июля**
Динамо (Мн) – Днепр
Шахтер – Смолевичи
Городея – Витебск

### 15-Й ТУР (6–9 ИЮЛЯ)

**6 июля**
БАТЭ – Торпедо-БелАЗ

**7 июля**
Минск – Шахтер
Динамо (Бр) – Неман
Торпедо – Динамо (Мн)

**8 июля**
Слуцк – Городея
Смолевичи – Луч
Витебск – Гомель

**9 июля**
Днепр – Ислочь

## ВТОРОЙ КРУГ

### 16-Й ТУР (13–16 ИЮЛЯ)

**13 июля**
Слуцк – Гомель

**14 июля**
Минск – Луч
Смолевичи – БАТЭ
Витебск – Неман

**15 июля**
Днепр – Городея
Торпедо-БелАЗ – Динамо (Мн)
Динамо Брест — Шахтер

**16 июля**
Торпедо – Ислочь

### 17-Й ТУР (20–23 ИЮЛЯ)

**20 июля**
Неман – Слуцк

**21 июля**
БАТЭ – Минск
Гомель – Днепр
Городея – Торпедо

**22 июля**
Луч – Динамо (Бр)
Шахтер – Витебск
Ислочь – Динамо (Мн)

**23 июля**
Смолевичи – Торпедо-БелАЗ

### 18-Й ТУР (17–20 АВГУСТА)

**17 августа**
Днепр – Неман

**18 августа**
Динамо (Бр) – БАТЭ
Минск – Смолевичи
Торпедо-БелАЗ – Ислочь

**19 августа**
Динамо (Мн) – Городея
Витебск – Луч
Слуцк – Шахтер

**20 августа**
Торпедо – Гомель

### 19-Й ТУР (24–27 АВГУСТА)

**24 августа**
Минск – Торпедо-БелАЗ

**25 августа**
БАТЭ – Витебск
Неман – Торпедо
Городея – Ислочь

**26 августа**
Смолевичи – Динамо (Бр)
Шахтер – Днепр
Гомель – Динамо (Мн)

**27 августа**
Луч – Слуцк

### 20-Й ТУР (31 АВГУСТА – 2 СЕНТЯБРЯ)

**31 августа**
Витебск – Смолевичи
Торпедо-БелАЗ – Городея

**1 сентября**
Слуцк – БАТЭ
Днепр – Луч
Ислочь – Гомель

**2 сентября**
Динамо (Мн) – Неман
Торпедо – Шахтер
Динамо (Бр) – Минск

### 21-Й ТУР (14–17 СЕНТЯБРЯ)

**14 сентября**
Луч – Торпедо

**15 сентября**
Минск – Витебск
БАТЭ – Днепр
Шахтер – Динамо (Мн)

**16 сентября**
Неман – Ислочь
Смолевичи – Слуцк
Динамо (Бр) – Торпедо-БелАЗ

**17 сентября**
Гомель – Городея

### 22-Й ТУР (21–24 СЕНТЯБРЯ)

**21 сентября**
Днепр – Смолевичи

**22 сентября**
Торпедо-БелАЗ – Гомель
Слуцк – Минск
Ислочь – Шахтер

**23 сентября**
Торпедо – БАТЭ
Динамо (Мн) – Луч
Витебск – Динамо (Бр)

**24 сентября**
Городея – Неман

### 23-Й ТУР (28 СЕНТЯБРЯ – 1 ОКТЯБРЯ)

**28 сентября**
Луч – Ислочь

**29 сентября**
Смолевичи – Торпедо
Шахтер – Городея
Минск – Днепр

**30 сентября**
Неман – Гомель
БАТЭ – Динамо (Мн)
Динамо (Бр) – Слуцк

**1 октября**
Витебск – Торпедо-БелАЗ

### 24-Й ТУР (5–7 ОКТЯБРЯ)

**5 октября**
Городея – Луч
Торпедо – Минск

**6 октября**
Слуцк – Витебск
Гомель – Шахтер
Днепр – Динамо (Бр)

**7 октября**
Торпедо-БелАЗ – Неман
Динамо (Мн) – Смолевичи
Ислочь – БАТЭ

### 25-Й ТУР (19–22 ОКТЯБРЯ)

**19 октября**
Витебск – Днепр

**20 октября**
БАТЭ – Городея
Минск – Динамо (Мн)
Шахтер – Неман

**21 октября**
Динамо (Бр) – Торпедо
Слуцк – Торпедо-БелАЗ
Смолевичи – Ислочь

**22 октября**
Луч – Гомель

### 26-Й ТУР (26–28 ОКТЯБРЯ)

**26 октября**
Ислочь – Минск
Днепр – Слуцк

**27 октября**
Городея – Смолевичи
Торпедо – Витебск
Неман – Луч

**28 октября**
Торпедо-БелАЗ – Шахтер
Динамо (Мн) – Динамо (Бр)
Гомель – БАТЭ

### 27-Й ТУР (2–5 НОЯБРЯ)

**2 ноября**
Минск – Городея

**3 ноября**
БАТЭ – Неман
Витебск – Динамо (Мн)
Динамо (Бр) – Ислочь

**4 ноября**
Днепр – Торпедо-БелАЗ
Слуцк – Торпедо
Луч – Шахтер

**5 ноября**
Смолевичи – Гомель

### 28-Й ТУР (9–11 НОЯБРЯ)

**9 ноября**
Торпедо-БелАЗ – Луч
Ислочь – Витебск

**10 ноября**
Гомель – Минск
Городея – Динамо (Бр)
Неман – Смолевичи

**11 ноября**
Динамо (Мн) – Слуцк
Торпедо – Днепр
Шахтер – БАТЭ

### 29-Й ТУР (24 НОЯБРЯ, СУББОТА)

Торпедо – Торпедо-БелАЗ
Днепр – Динамо (Мн)
Слуцк – Ислочь
Витебск – Городея
Динамо (Бр) – Гомель
Минск – Неман
Смолевичи – Шахтер
БАТЭ – Луч

### 30-Й ТУР (2 ДЕКАБРЯ, ВОСКРЕСЕНЬЕ)

Торпедо-БелАЗ – БАТЭ
Луч – Смолевичи
Шахтер – Минск
Неман – Динамо (Бр)
Гомель – Витебск
Городея – Слуцк
Ислочь – Днепр
Динамо (Мн) – Торпедо



